©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 21, 2013

Сяргей Кузняцоў

# “Цярноўнік Крэсаў” вачыма “караняжа”

Chmielewska, Gizela (2010). *Cierń Kresowy. Opowieść o Edwardzie Woyniłłowiczu i jego rodzinie.* Wydawnictwo LTW, 369 s.
Хмелеўска, Гіжэля (2010). *Цярноўнік Крэсаў. Расповед пра Эдварда Вайніловіча і яго сям'ю.* Wydawnictwo LTW, 369 с.



Вельмі часта, калі ў польскай навуковай і публіцыстычнай літаратуры заходзіць гаворка пра фарміраванне беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзяў, як адна з асноўных прадстаўляецца "першародная" праблема мізэрнага ўдзелу мясцовых эліт, у першую чаргу буйных землеўласнікаў, у беларускім нацыянальным руху. Тых нешматлікіх прадстаўнікоў мясцовай спольшчанай арыстакратыі, чыя фінансавая падтрымка ўзмацняла беларускія арганізацыі і выдавецтвы, можна пералічыць па пальцах. Адным з іх, побач з постацямі Рамана Скірмунта і Магдалены Радзівіл, быў выбітны грамадскі дзеяч Міншчыны Эдвард Антоні Вайніловіч (1847–1928) – намеснік старшыні Мінскага Сельскагаспадарчага Таварыства, прыхільнік ідэалогіі краёўцаў, мецэнат выдавецтва "Загляне сонца і ў наша аконца", часопісаў "Саха" і "Лучынка", фундатар касцёла Святых Сымона і Алены ў Мінску.

На жаль, нягледзячы на выбітнасць постаці Вайніловіча, да нядаўняга часу не існавала ніводнай манаграфіі, якая была б поўнасцю прысвечана яго асобе. Часткова гэта можна патлумачыць тым, што Вайніловіч пакінуў пасля сябе падрабязныя ўспаміны – багатую крыніцу інфармацыі пра сваю грамадска-палітычную дзейнасць на Міншчыне. Першая частка ўспамінаў была выдадзена праз некалькі гадоў пасля смерці аўтара – у 1931 годзе (Woyniłłowicz, 1931). Другая частка ўспамінаў, у якой Вайніловіч дазволіў сабе крытычныя заўвагі ў адрас улад міжваеннай Польскай рэспублікі, з-за асцярожнасці і самацэнзуры выдаўцоў засталася ў рукапісе (Woyniłłowicz, 1928). Фрагменты *Успамінаў* Вайніловіча, у тым ліку перакладзеныя на беларускую мову, цытаваліся ў многіх тэкстах, прысвечаных гісторыі ідэалогіі краёўцаў, Мінскага Сельскагаспадарчага Таварыства (якое часта лічаць першай беларускай няўрадавай арганізацыяй), у тэкстах пра гісторыю Чырвонага касцёла на плошчы Незалежнасці ў Мінску. Другая частка *Успамінаў* па сённяшні дзень не выдадзена, а выданне першай часткі ў 1931 годзе было адзіным, калі не браць пад увагу яго пераклад на рускую мову, які мізэрным накладам (250 асобнікаў) выйшаў у Мінску ў 2007 годзе (Войнилович, 2007).

Менавіта таму вялікай падзеяй стала выданне манаграфіі Гіжэлі Хмялеўскай, поўнасцю прысвечанай асобе Эдварда Вайніловіча. У першую чаргу праца знаёміць чытачоў з неапублікаванай часткай *Успамінаў*, а інфармацыю апублікаванай часткі дапаўняе на падставе іншых крыніц эпохі, сярод якіх важнае месца адводзіцца неапублікаваным мемуарам крэўных Вайніловіча – Багуслава Залескага (Zaleski) і Зыгмунта Даманскага (Domański).

Асаблівую вартасць манаграфіі надае той факт, што праз кантакт з нашчадкамі Габрыэлі Магільніцкай (Gabriela Mogilnicka) і Марыі Бельскай (Maria Bielska),[1] аўтару ўдалося прадставіць у працы раней недаступныя крыніцы, такія як прыватныя лісты, перапіска паміж родзічамі, сямейныя здымкі і дакументы.

1 Родныя сёстры Эдварда Вайніловіча.

У інтэрвью, дадзеным адразу пасля выдання кнігі, аўтар назвала мэтай манаграфіі прадставіць Вайніловіча *"як звычайнага чалавека, а не помнік", "даведацца пра яго блізкіх, пра якіх ён сам так мала піша", "дапоўніць успаміны Вайніловіча менавіта асабістай гісторыяй"* (Sowińska, 2011).

Без сумневу, аўтару ўдалося на фоне асабістых трагедый Вайніловіча (заўчасная смерць дзяцей, перарванне роду Вайніловічаў, пагром сямейнага маёнтка Савічы і Рыжская дамова, якая пакінула Савічы на савецкім баку ўсяго ў некалькіх кіламетрах ад новай мяжы) прадставіць чытачам усю магутнасць характару "апошняга з Вайніловічаў", апісаць яго стыль жыцця і звычкі, гарлівасць у веры, паслядоўнасць і шчодрасць. Варта прызнаць, што гэта з'яўляецца найважнейшым дасягненнем манаграфіі.

Аднак сямейныя гісторыі, якія рэдка трапляюць у афіцыйныя біяграфіі вядомых асоб часта могуць быць цікавыя не толькі аматарам сямейных мемуараў. Не згаданыя ў афіцыйных біяграфіях звесткі пра адносіны вядомых людзей з іншымі постацямі грамадска-палітычнага жыцця, таксама як і сямейныя і роднасныя сувязі могуць тлумачыць зацікаўленасці, светапогляд і логіку дзеянняў асоб у публічным жыцці. Добрым прыкладам тут можа быць іншы выбітны прадстаўнік краёвай ідэалогіі, беларускі дзеяч Антон Луцкевіч. Веды пра тое, чаму малады Луцкевіч зацікавіўся краёвасцю і беларускім нацыянальным рухам былі б няпоўныя без звестак пра сяброўства яго бацькі Яна-Баляслава Луцкевіча з беларускім класікам Вінцэнтам Дунінам-Марцінкевічам (Харэўскі, 2008). Гэтак жа цяжка не браць у разлік уплыў Зыгмунта Чаховіча, паплечніка Каліноўскага, на светапогляд маладога Івана Луцэвіча (Янкі Купалы).

Менавіта таму, распачынаючы чытанне манаграфіі Г. Хмялеўскай, можна было б спадзявацца ўбачыць "Вайніловіча-чалавека" ў яго дачыненнях з тымі людзьмі, пра якіх ён згадвае на старонках *Успамінаў,* перадусім з прадстаўнікамі краёўцаў і беларускага руху. Цікава таксама было б больш падрабязна даведацца, што думаў Вайніловіч пра нацыянальную прыналежнасць у сітуацыі неабходнасці выбару, якую дыктаваў на землях былога ВКЛ пачатак XX стагоддзя. Без сумневу, для Вайніловіча, які лічыў сябе прадстаўніком беларускага роду (і пісаў пра гэта ва *Успамінах*), такія пытанні мелі вялікае значэнне. Сваё стаўленне да беларускасці і беларускага руху Вайніловіч акрэслівае наступным чынам: *"Валодаючы беларускай мовай гэтак жа добра як польскай, стала ўжываючы яе ў адносінах з сельскагаспадарчымі працаўнікамі ў сваёй гаспадарцы, я некалькі дзесяцігоддзяў падтрымліваў сталы кантакт з усімі праявамі беларускага руху перадусім у Мінску, дзе сустракаўся з Луцкевічам і Кастравіцкім,*[2] *пазней у Вільні і Петраградзе з В. Іваноўскім, Б. Шыпілам*[3] *і*

[2] Казімір Рафаіл Кастравіцкі (псеўд. Карусь Каганец, 1868 – 1918) – беларускі паэт, перакладчык, мастак і грамадскі дзеяч.

[3] Браніслаў Эпімах-Шыпіла (1859–1934) – беларускі фалькларыст, мовазнавец і літаратуразнавец, дзеяч культуры. Адзін з ініцыятараў стварэння ў 1906 годзе ў Пецярбургу выдавецтва "Загляне сонца і ў наша аконца".

*г.д. Беручы ў беларускіх згуртаваннях сякі-такі матэрыяльны ўдзел, урэшце мусіў ад іх аддаляцца, бо распачатая ў іх праца, спачатку ў кірунку самапазнання і нацыянальнага адраджэння – "Лучынка", "Саха", "Загляне сонца і ў наша аконца" – напрыканцы звычайна прымала сацыялістычныя лозунгі і кірунак, якія, насуперак сваім перакананням, вызнаваць я ня мог. Польскія шавіністы з-за маіх беларускіх сімпатый закідвалі мне, што я не паляк, а беларус, што дазволю сабе пакінуць на адказнасці аўтараў гэтай канцэпцыі ..."* (Woyniłłowicz, 1931: 210–211).

На вялікі жаль, у працы Г. Хмялеўскай падрабязнае апісанне касцюмаў і дэталяў гардэробу асоб, прадстаўленых на здымках, а таксама дакладны аналіз зместу запаветаў членаў сям'і абсалютна здамінавалі і выціснулі іншыя пытанні, раскрыцця якіх можна было б чакаць. Калі не браць у разлік апошні раздзел кнігі, закранутыя беларускія пытанні ўсёй манаграфіі можна было б змясціць на дзесяці старонках. Магло б здавацца, што гэта абумоўлена скіраванасцю працы менавіта на польскага, а не беларускага чытача. Але чытач у гэтым выпадку безумоўна прайграе ад таго, што партрэт Вайніловіча застаецца няпоўным.

Пытанні краёвасці і краёвай ідэалогіі, якія былі важным элементам светапогляду Вайніловіча, у манаграфіі наагул не згаданыя. Постаць выбітнага краёўца Рамана Скірмунта толькі згадваецца, пра яго адносіны з Вайніловічам чытач нічога не даведаецца. Постаць іншага прыхільніка краёвай ідэалогіі – Аляксандра Лядніцкага[4] – з'яўляецца ў тэксце часцей, але зводзіцца да апісання бытавых пытанняў.

Тое, што аўтар апускае ў сваёй працы беларускія і краёвыя аспекты, якія былі прадстаўлены ва *Успамінах,* дае даволі смутны вынік. Гэтак, хоць аўтар у назве манаграфіі апелюе да так званых крэсаў (трэба адзначыць, што ў польскага чытача гэта паняцце не мае негатыўнага гучання), адметнасць крэсаў ёй паказаць не ўдаецца. Беларусь паўстае перад чытачом у выглядзе звычайнай польскай правінцыі, якая амаль не адрозніваецца ад Куявіі,[5] хіба толькі час ад часу ў аповедзе згадваюцца беларускія сяляне. Нават цытуючы словы Вайніловіча пра тое, што пасля пераезду ў Быдгашч[6] той адчувае сябе *эмігрантам,* аўтар не спрабуе адказаць на пытанне "чаму?".

Адначасова можа ўзнікнуць уражанне, што некаторыя аспекты аўтарам апускаюцца ці скажаюцца мэтанакіравана. Так, напрыклад, апісваючы выбар Вайніловічам праекта новага мінскага касцёла, яна піша,

4 Аляксандр Лядніцкі (польск. *Aleksandr Lednicki,* 1866 –1934) – расійскі і польскі грамадскі і палітычны дзеяч. У І Дзяржаўнай Думе Расійскай імперыі лідар парламенцкай кааліцыі Саюз аўтанамістаў.

5 Куявы (польск. *Kujawy*) – гістарычны рэгіён у цэнтральнай Польшчы ў сярэднім цячэнні Віслы. Найбольшыя гарады – Быдгашч, Улацлавак, Інаўроцлаў.

6 Быдгашч (польск. *Bydgoszcz*) – горад у цэнтральнай Польшчы. Апошнія гады свайго жыцця Эдвард Вайніловіч правёў у гэтым горадзе, куды пераехаў неўзабаве пасля таго, як ягоны родавы маёнтак Савічы апынуўся па другі бок савецка-польскай мяжы.

што фундатару найбольш *"падыходзіў раманскі стыль, між іншым таму, што не даваў магчымасці лёгкай перабудовы каталіцкага храма ў царкву"* (с. 103). У той жа час сам Вайніловіч на тых жа старонках Успамінаў, на якія спасылаецца аўтар, тлумачыць выбар раманскага стылю зусім па-іншаму – такі стыль павінен сімвалічна аб'ядноўваць праваслаўных і каталікоў Краю. Калі Г. Хмялеўская прадстаўляе падзел веравызнанняў як падзел нацыянальны, то паводле *Успамінаў* гэты падзел такі: *"Я не хацеў затрымлівацца на гатычным стылі, які быў па-першае занадта распаўсюдзіўся падчас распачатых тады будоваў каталіцкіх храмаў у Расіі, па-другое занадта адрозніваўся ад стылю храмаў усходняга абраду, якія існуюць у нашым краі, а таму як бы падкрэсліваў падзелы ў веры сацыяльных класаў, бо пераважная частка сялянства была праваслаўная, а землеўласнікаў – каталіцкая, і таму я затрымаўся на раманскім стылі, які расквітнеў у тую эпоху, калі ўсходняя царква была яшчэ ў адзінстве з Рымам."* (Woyniłłowicz, 1931: 96)

Варта адзначыць, што гэтых памкненняў Вайніловіча "не заўважыў" таксама ў прадмове да выдання 1931 года Януш Івашкевіч, які пісаў, што, *"выбіраючы праект у раманскім стылі, хацеў, магчыма, падкрэсліць моцную сувязь гэтага краю з заходняй культурай і прадухіліць магчымасць пераробкі гэтага касцёла на царкву"* (Woyniłłowicz, 1931: XIII). Калі Я. Івашкевіч падстрахаваўся выразам "магчыма", то Г. Хмялеўская прадстаўляе такую інтэрпрэтацыю з абсалютнай упэўненасцю.

На падставе некаторых высноў і недакладнасцей можна вызначыць, што аўтар недастаткова арыентуецца ў беларускай праблематыцы (так, газету "Наша ніва" яна называе "Новая ніва", с. 152), а таму і не можа адпаведна раскрыць глыбіню светапогляду Вайніловіча. У апошнім раздзеле працы Г. Хмялеўская са здзіўленнем для сябе адзначае, што *"адраджэнне постаці Вайніловіча не наступіла, аднак, у Польшчы, як гэтага можна было б спадзявацца, а ў Беларусі"* (с. 339–340). На жаль, нават пасля гэтага сцверджання аўтар не спрабуе высветліць, чаму ж так адбылося. У згаданым вышэй інтэрв'ю Г. Хмялеўская знаходзіць найбольш простае тлумачэнне, з якім цяжка пагадзіцца – уся прычына толькі ў тым, што Вайніловіч быў фундатарам касцёла ў цэнтры Мінска, а *"калі б не гэты касцёл, Вайніловіч, напэўна, быў бы забыты, як шмат іншых палякаў, якія маюць вялікія заслугі перад гэтай зямлёй"* (Sowińska, 2011).

Акрамя пытанняў краёвай ідэалогіі і беларускага руху, па-за ўвагай аўтара застаўся яшчэ адзін важны аспект, вельмі людскі, асабісты, які вельмі датычыў галоўнага героя манаграфіі. Эдвард Вайніловіч быў адным з найбольш выбітных прадстаўнікоў той часткі эліты былога Вялікага Княства Літоўскага, якая замест удзелу ў падпольных патрыятычных арганізацыях і паўстаннях выбрала служэнне расійскаму імператару, імкнучыся выкарыстаць уласныя магчымасці ў Пецярбургу для ўсебаковага развіцця свайго Краю. Такое служэнне часта вельмі негатыўна ўспрымалася ў асяродку

мясцовай шляхты. Аналіз маральнага выбару, зробленага Вайніловічам, без сумневу ўзбагаціў бы манаграфію, дазволіўшы больш глыбока зразумець погляды і асабістыя якасці яе галоўнага героя. Адзначанае было б цікава яшчэ і таму, што для многіх жыхароў Краю, на карысць якога працаваў Эдвард Вайніловіч, гэты маральны выбар і сёння застаецца актуальным.

**Літаратура, якая згадваецца ў рэцэнзіі**


1. Войнилович, Эдвард (2007). *Воспоминания.* В. Завальнюка (ред.), пер. с польск. Минск: Издание Минской римо-католической парафии св. Симона и Елены.
2. Харэўскі, Сяргей (2008). "Што зьмяняе чалавека", *Наша Ніва,* 04.02.2008, URL (доступ 23.02.2014): http://nn.by/?c=ar&i=14805
3. Domański, Zygmunt. *Pamiętniki.* Biblioteka Narodowa, mps, akc. 9216, mf. 71644
4. Sowińska, Hanka (2011). "Cierń Kresowy czyli Edward Woyniłłowicz jakiego nie znamy – rozmowa z G. Chmielewską", *Gazeta Pomorska,* 20.01.2011, URL (доступ: 23.02.2014): http://www.pomorska.pl/apps/pbcs.dll/article?AID=/20110120/ALBUMY01/859417732
5. Woyniłłowicz, Edward (1931). *Wspomnienia, 1847—1928.* Wilno: Komitet Uczczenia s. p. E. Woyniłłowicza.
6. Woyniłłowicz, Edward (1928). *Wspomnienia, 1847—1928. Cz. II.* Biblioteka Narodowa, rkps, sygn. IV.6486 III. K 289–666.
7. Zaleski, Bogusław. *Wspomnienia.* Biblioteka Narodowa, mps, sygn. AKC. 11991, mf. 71646